# БАЦЬКАЎШЧЫНА

WHITERUTHENIAN WEEKLY „THE FATHERLAND“ Цана 30 н. фэн.

№ 36 (39) 14 ЛІСТАПАДА 1948 Г. ГОД ВЫДАНЬНЯ 2

## БЕЛАРУСКІЯ ЖАЎНЕРЫ!

**На 27-ае лістапада сёлета прыпадаюць 28-ыя ўгодкі Слуцкага народнага паўстаньня. У гэты дзень мы абавязаныя ўшанаваць памяць беларусаў-герояў, якія, не спалохаўшыся пераважаючай сілы расейска-бальшавіцкае навалы, мужна выступілі із зброяй у руках, каб бараніць незалежнасьць Беларускае Народнае Рэспублікі. Праўда, у няроўным змаганьні бальшыня зь іх згінула слаўнай сьмерцю на полі бою, але іхная кроў ня была пралітая надарма. Кроў, пралітая гэтымі героямі, зьяўляецца для нас тэстамэнтам, які наказвае нам далей змагацца за незалежнасьць нашай Бацькаўшчыны-Беларусі. Хоць мы цяпер і знаходзімся на выгнаньні, аднак ня трацьма надзеі: прыдзе дзень нашага слаўнага павароту на Бацькаўшчыну. Да гэтага мы павінны быць гатовыя. Цяжкі час нашага жыцьця на чужыне мы мусім мужна ператрываць, гуртуючы свае шэрагі. Аддаючы належную чэсьць памяці слуцкіх паўстанцаў у дзень 27-га лістапада, кажны з нас павінен зложыць прысягу на іхную кроў, што будзе змагацца датуль, пакуль ня будзе здабытая поўная незалежнасьць Беларусі.**

**Няхай-жа Бог пашле нам моц духу, каб мы былі здольныя да найбольшых чынаў і ахвяраў у рашучы час, як былі да гэтага здольныя слуцкія паўстанцы.**

**Няхай жыве змаганьне за незалежнасьць Беларускае Народнае Рэспублікі.**

**Старшыня Галоўнага Ураду**
**Задзіночаньня Беларускіх Вэтэранаў.**

### ГЕНЭРАЛ ДЭ ГОЛЬ ПЕРАМАГАЕ

Падчас выбараў у Раду Рэспублікі Францыі, якія адбыліся 7 лістапада, Народная Вунія Дэ Голя асягнула значны посьпех, тады, калі камуністыя пацярпелі няўдачу. Міністэрства нутраных справаў Францыі падало наступныя вынікі выбараў:

Партыя Дэ Голя 55 мандатаў,
Рэспубліканская вунія 64 мандаты,
Незалежныя радыкалы 41 мандат,
Сацыялісты 48 мандатаў,
Народныя рэспубліканцы 15 мандатаў,
Камуністыя 16 мандатаў,
Рэспубліканская партыя свабоды 13 мандатаў,
Незалежныя сацыялістыя 3 мандаты,
Незалежныя музульмане 6 мандатаў,
Альжырская дэмакратычная партыя 1 мандат.

Як сьцьвярджае міністэрства нутраных справаў, 1 незалежны сацыяліст, 14 левых рэспубліканцаў, 20 незалежных рэспубліканцаў і 7 сяброў рэспубліканскай партыі свабоды зьбліжаныя да партыі Дэ Голя. Такім чынам Дэ Голь здабыў фактычна 97 мандатаў.

### «САВЕТЫ ЖАДАЮЦЬ МІРУ»

31 гадавіна бальшавіцкай кастрычніцкай рэвалюцыі была адзначаная 7 лістапада ў Маскве ўрачыстымі сьвяткаваньнямі. Перад абедам гэтага дня савецкі міністар замежных справаў Вячаслаў Молатаў у Вялікім Тэатры ў Маскве ў прысутнасьці Сталіна сказаў вялікую прамову, у якой закрануў апошнія падзеі міжнароднага жыцьця. Пасьля гэтага адбыўся вялікі парад на чырвоным пляцы ў Маскве. Спасярод павіншаваньняў, якія надыйшлі з усіх сатэлітных гаспадарстваў, былі таксама павіншаваньні з Грэцыі, Індыі, Паўночнай Карэі, а таксама ад Чан-Кай-Шэка.

У сваей паўтарагадзіннай мове Молатаў зрабіў вельмі аптымістычны вывад для савецкай гаспадаркі ў параўнаньні з гаспадаркай «капіталістычных краінаў». Ён заявіў, што гэтыя апошнія жывуць пры помачы амэрыканскіх крэдытаў і пры помачы пляну Маршаля, тады калі працоўныя Савецкага Саюзу сваей собскай працай здабываюць сабе хлеб.

Мэтай заходняга блёку — паводля Молатава — і Атлянтычнага пакту ёсьць прыгатаваньне трэйцяй сусьветнае вайны.

### САВЕЦКІЯ БАРЫКАДЫ Ў БЭРЛІНЕ

Савецкія ўлады ў Бэрліне загадалі збудаваць барыкады на мяжы сваей зоны гораду з мэтай «гаспадарскай кантролі ўсходняга Бэрліна й усходняй зоны Нямеччыны». Што Саветы канчальна пакінулі плян кіраваньня Бэрлінам чатырма гаспадарствамі, сьведчыць пісьмо савецкага сакратара кантрольнай рады да амэрыканскага губэрнатара Нямеччыны Клея, якое было цяпер апублікаванае. У пісьме гэтым гаворыцца афіцыяльна, што Саветы ўважаюць кантрольную раду за разьвязаную і што ейнае паседжаньне ўжо больш не адбудзецца.

### ТРУМАН — ІЗНОЎ ПРЭЗЫДЭНТАМ

Вынікі выбараў у ЗША зьдзівілі сьвет. Перамог Труман наперакор усім надзеям ягоных праціўнікаў. У перамогу Трумана ня верыла навет ягоная собская партыя.

Тым ня менш Труман перамог, атрымаўшы 22,2 мільёнаў галасоў супраць 20,4 мільёнаў галасоў, адданых Дуі. Змаганьне паміж канкурэнтамі йшло каля пытаньняў нутраной палітыкі.

«Нью-Ёрк Гэральд Трыбюн» зазначае, што пастанавілі аб перамозе абяцаньні Трумана і падтрыманьне яго работнікамі. Труман выступаў супраць абмежаваньня правоў для прафсаюзаў.

Дэмакратычная партыя атрымала поўную перамогу. У палаце рэпрэзэнтантаў яна будзе мець 263 супраць 173 рэспубліканскіх месцаў, а ў сэнаце — 54 із 96. Дэмакраты ўжо прыступілі да апрацаваньня законапраектаў па расшырэньні будовы дамоў, народнай ахове здароўя, палітыцы памяншэньня цэнаў і іншым працоўным дачыненьням. У нутраной палітыцы асаблівых зьменаў не прадбачыцца.

### УСЬЦЯЖ СПРАВА БЭРЛІНА

Пасьля таго, калі Бэрлінскі канфлікт ня мог быць разьвязаны на паседжаньні Рады Бясьпечнасьці з прычыны вэта савецкага дэлегата, гэтае пытаньне ўсьцяж выплывае падчас нарадаў Задзіночаных Нацыяў. Старшыня Рады Бясьпечнасьці аргентынскі дэлегат Брамуглія заявіў, што ён пасьля свайго павароту зь Лёндану пачне спробы пасярэдніцтва ў пытаньні Бэрлінскага канфлікту.

На падставе сваіх размоваў у Лёндане з брытанскім прэм'ерам Этлі й міністрам замежных справаў Бэвінам вынес Брамуглія ўражаньне, што існуюць яшчэ магчымасьці разьвязаць Бэрлінскае пытаньне мірным шляхам. Ён заявіў, што паўторны выбар Трумана на прэзыдэнта ЗША палягчае знайсьці спосаб уладжаньняў з Савецкім Саюзам.

З парыскіх палітычных колаў паведамляюць, што генэральны сакратар ЗН Трыгвэ Лі прыгатаваў свой собскі праект разьвязаньня Берлінскага канфлікту.

### НАЦЫЯНАЛЬНЫ КІТАЙ БУДЗЕ ЗМАГАЦЦА

Правадыр нацыянальнага Кітая генэралісімус Чан-Кай-Шэк у вадозьве з 8 лістапада заявіў: «Кітайскі народ мусіць быць прыгатаваным яшчэ 8 год змагацца супраць камуністых аж да канчальнае перамогі». Гэтым самым здэмэнтаваў Чан-Кай-Шэк чуткі, што быццам ён хоча ўвайсьці ў перамовы з камуністымі ў справе замірэньня.

### АМЭРЫКАНСКІ МІНІСТАР АБАРОНЫ Ў ЭЎРОПЕ

Амэрыканскі міністар абароны Форэстэль 9 лістапада прыбыў у Эўропу, дзе правядзе размовы з прадстаўнікамі амэрыканскага ўраду ў Парыжы, Франкфурце, Бэрліне і Лёндане. Тэмай размоваў маюць быць мілітарныя справы.

## ЗА ІДЭАЛЯГІЧНАЕ ЎЗМАЦНЕНЬНЕ

Толькі тое грамадзянства ці грамадзкая група зьяўляецца сільнае й можа пасьпяхова выконваць прынятыя на сябе абавязкі, калі яно зьяўляецца моцным ідэалягічна, г. зн. глыбака прасякнутым тэй вялікай ідэяй, за ажыцьцяўленьне якой змагаецца ўвесь народ. І наадварот грамадзянства, пазбаўленае глыбейшых ідэалягічных асноваў, прадстаўляе сабою нязначную або й ніякую сілу, ня гледзячы навет на сваю вялікую колькасьць. Гэта ёсьць спрадвечная праўда, дастаткова ўжо спрактыкаваная й праверaная сярод многіх народаў і грамадзянстваў у розныя часы гісторыі, што абсалютна няма патрэбы яе тутака даводзіць.

Затое паўстае патрэба прааналізаваць з гэтага гледзішча нашае эміграцыйнае грамадзянства й пераканацца, ці дастаткова зьяўляецца яно сільным ідэалягічна, каб выконваць тыя заданьні, што ўва ўсей сваей велічы сяньня стаяць перад намі, як палітычнымі эмігрантамі.

Нашай агульнанацыянальнай ідэяй, вакол якой мы гуртуемся, працуем і ў імя якой змагаемся, ёсьць ідэя вольнай і незалежнай Беларусі. Гэта ёсьць найвялікшая, бо агульнанародная нашая ідэя, перад якой павінны адыйсьці на задні плян ўсе дробныя й вузка асабістыя патрэбы й клопаты нашага цяжкага эміграцыйнага жыцьця, а таксама ўсе груповыя ці партыйныя інтарэсы паасобных групаў грамадзянства. Паскольні ажыцьцяўленьне гэтае ідэі можа наступіць толькі пасьля перамогі над тымі варожымі сіламі, што стараюцца яе ад нас адабраць або зьнішчыць, патолькі павінна нас задзіночваць адзінае імкненьне да змаганьня з гэтымі варожымі сіламі — бальшавізмам аж да поўнае перамогі над ім.

Гісторыя, пачынаючы ад часоў сівой старажытнасьці й канчаючы сучаснасьцю, дае нам шмат прыкладаў, што навет малыя колькасна народы, але сільныя ідэяй і сьведамыя сваіх для яе абавязкаў, заўсёды перамагаюць на шляху сваім найвялікшыя навет цяжкасьці й дасягваюць пастаўленую перад сабой мэту. Гэткім былі між іншым ірляндцы, якія доўгі час у імя сваей ідэі змагаліся супраць найвялікшае сусьветнае магутнасьці — Вялікабрытаніі і перамаглі, бо іхная ідэя была для іх усім, будзіла ў іх веру, гартавала дух і натхняла іх на найвялікшыя геройствы. Іншым, ня менш вымоўным прыкладам можа быць маленькая Фінляндыя, якая, дзякуючы глыбокай ідэйнасьці свайго грамадзянства, змагла ў 1939 г. пасьпяхова супрацьставіцца такой вялізарнай сіле, якую прадстаўляў Савецкі Саюз. А народы навет вялікія лёгка пакараліся перад нязначным ворагам, калі ў іх адсутнічалі моцныя ідэйныя асновы. Ня трэба больш яркага прыкладу ідэалягічнай слабасьці й вынікаючых зь яе няшчасьцяў, які паказаў вялікі колькасна расейскі народ у вабліччы бальшавіцкае небясьпекі ў 1917 г. Дробная бальшавіцкая кліка, падтрыманая нізкімі інстынктамі вулічнай таўпы, змагла пакарыць многамільённы народ і захапіць уладу на тэрыторыі аднэй шостай часткі сьвету ды стацца сяньня сусьветнай загрозай.

Калі-ж прыгледзіцца да нашага эміграцыйнага грамадзянства, то побач із зьявішчамі пазытыўнымі й пацяшаючымі, заўважым таксама й мамэнты выразна адмоўнага характару. Побач із людзьмі ідэалягічна моцнымі й непахіснымі, на плячах якіх ляжыць увесь цяжар нацыянальнаграмадзкай і палітычнай працы й адказнасьці, знойдзем нямала людзей слабых або зусім бясхрыбетных зь ідэалягічнага гледзішча, якія не змаглі да глыбіні душы сваей пераняцца нацыянальна-вызвольнай ідэяй і зрабіць яе зьместам усяго свайго жыцьця. На гэтыя адмоўныя бакі нашым сяньняшнім абавязкам ёсьць зьвярнуць асаблівую ўвагу й весьці працу іменна ў кірунку ідэалягічнага ўзмацненьня нашага грамядзянства.

Некаторыя спасярод менш зарыентаваных нашых людзей памылкова ўважаюць, што варожая, скіраваная супраць нашай вызвольнай ідэі дзейнасьць беларускага зарубежніцтва ёсьць знакам нашае ідэалягічнае слабасьці. Аднак у запраўднасьці гэтак ня ёсьць. Такія сумныя факты, што пэўная частка людзей адыйшла ад беларускай нацыянальнай сям'і зрадзіла нашым нацыянальным ідэалам і на шкоду ім пашла служыць ворагу, спатыкаюцца ня толькі ў нас. Такія факты былі й ёсьць сярод усіх тых народаў, што знаходзяцца пад моцным варожым ціскам. Вораг заўсёды імкнецца за ўсякую цану стварыць свае пятыя калёны ў тым асяродзьдзі, на якое скіроўвае сваю агрэсыю. Нам тады нічога не астаецца, як толькі станоўка змагацца з усімі тымі праступнымі элемэнтамі, што сьведама пайшлі на варожую службу, ды старацца ўсьведаміць і адцягнуць адтуль тыя адзінкі, што ў гэтай пятай калёне апынуліся нясьведама й прыпадкова.

Такім чынам існаваньне ў нас варожай прарасейскай дывэрсыі не зьяўляецца яшчэ довадам нашае ідэалягічнае слабасьці, затое той факт, што мы не здабыліся дагэтуль у станоўкасьць у змаганьні зь ей і дазволілі разрасьціся зарубежніцтву да сяньняшніх разьмераў, выстаўляе нас усіх у нявельмі дадатнім сьвятле. Многім нашым адказным людзям не хапіла цывільнае адвагі й сілы волі ў зародку спаралiжаваць дывэрсыйную дзейнасьць зарубежніцтва, каб тыя сілы й энэргію, што траціцца на змаганьне з гэтай шкоднай праявай у нашым жыцьці, выкарыстаць для пазытыўных і творчых мэтаў.

Таксама назіраем нярэдкія выпадкі, калі некаторыя нашыя людзі навет спасярод інтэлігенцыі й дастаткова сьведамыя нацыянальна маюць звычай перабягаць з аднаго ідэалягічнага лягеру ў другі супрацьлежны толькі з тае дробнае прычыны, што была абражаная іхная амбіцыя. Гэта найбольш яркі довад ідэалягічнай слабасьці такіх людзей. **Хісткія ідэалягічныя асно-**

## Трагэдыя нацыянальнага Кітая

Здабыцьцё камуністымі галоўнага гораду Манджурыі — Мукдэну прыняла публічная апінія сьвету ня толькі, як магутны ўдар па нацыянальным кітайскім урадзе ў Нанкінгу й ягоным шэфе генэралісімусе Чан-Кай-Шэку, але таксама як падзею, што мае гістарычнае значэньне для наступу сусьветнага камунізму. Тут ходзіць пра тое, што страта Мукдэну перадае ў камуністычныя рукі ўсю Манджурыю, г. зн. чацьвертую часьць кітайскай тэрыторыі з 35% усяго кітайскага насельніцтва. Што яшчэ цяжэй, дык гэта тое, што пры заняцьці Мукдэну было страчана многа войска (200.000 чалавек, пераважна палоннымі) й ваеннага матарыялу, якія могуць быць цяжка замененыя новымі рэзэрвамі. У сувязі з гэтым паўстала паважная загроза для паўночнага Кітаю й моцна пахіснулася й так крытычная кітайская гаспадарская сыстэма.

Ленін калісьці сказаў, што камунізм апануе Эўропу абходам цераз Азію. Магчыма тады, што камуністычная афэнзыва ў усходняй Азіі й мае на мэце канцэпцыю памерлага бальшавіцкага правадыра.

Да пераможнага паходу камуністых у Кітаі прычынілася ня толькі выдатная помач Саветаў, але таксама мамэнты сацыяльнага характару, гаспадарскі крызыс і факт, што ЗША пакінулі Кітай свайму собскаму лёсу. Калі 10 студзеня 1946 г. ўдалося Маршалю — у той час упаўнаважанаму прэзыдэнта ЗША ў Кітаі — дабіцца замірэньня паміж нацыянальным Кітаем і кітайскімі камуністымі, дык у Амэрыцы наіўна ўважалі, што надарылася магчымасьць поўнае ліквідацыі кітайскага канфлікту. Аднак для камуністых гэтае замірэньне было толькі выгоднай перадышкай.

Летам 1946 г. запрапанаваў Маршаль амэрыканскаму ўраду спыніць усякую даставу ваеннага матарыялу ў Кітай. Гэтым крокам хацеў ён вымусіць мір. За выключэньнем старых запасаў амуніцыі, што пакінулі ў Кітаі амэрыканцы, нацыянальны кітайскі ўрад да лютага 1948 г. не атрымаў ад амэрыканцаў амуніцыі ні на адзін выстрал, тады, калі камуністыя ўвесь час карысталіся помаччу Саветаў.

Вялікай палітычнай мэтай камуністых ёсьць стварэньне ў Кітаі «народнай дэмакратыі». Мілітарнай мэтай, што мае падтрымаць мэту палітычную, ёсьць поўнае заняцьце Манджурыі, паўночнага й цэнтральнага Кітая, а таксама злучэньне гэтых тэрыторыяў, разьдзеленых цяпер шырокім калідорам. Роўна 770.000 камуністычнае арміі стаіць супраць 790.000 жаўнераў нацыянальнае арміі. Ня гледзячы на амаль роўную колькасьць, мілітарная перавага ёсьць на старане камуністых, якія зьяўляюцца лепш узброенымі й вызначаюцца вышэйшай баявой маральлю. Для дасягненьня мілітарнае мэты імкнуцца камуністыя зрэалізаваць два стратэгічныя пляны: 1. перарэзаць усходня-заходні калідор (у якім знаходзіцца стары горад і важная ваенная база Пэкін і горад Тыентсін), які аддзяляе Манджурыю ад паложанага на поўдзень ад яе паўночнага, апанаванага чырвонымі, Кітая, з мэтаю злучэньня гэтых абедзьвюх тэрыторыяў. 2. На паўдні дасягнуць лініі Шанхай-Нанкін-Ганкаў-Іханг.

Сытуацыя нацыянальнага Кітая ёсьць на толькі трагічная, якой яшчэ ня было ад найцямнейшых дзён кітайска-японскай вайны. Другі ўжо раз падчас аднае генэрацыі змушаны нацыянальны Кітай да такога адступленьня, намеры якога цяжка сабе прадставіць паводля эўрапэйскіх паняцьцяў.

Р.

# НАШАЕ СТАНОВІШЧА ЯСНАЕ

**(Да пытаньня беларуска-польскіх узаемадачыненьняў)**

Беларускае палітычная думка, будучы заабсэрбаванай пытаньнямі дачыненьняў да нас расейскага імпэрыялізму, за мала зьвяртае ўвагі на беларуска-польскія дачыненьні. А тымчасам і гэтае пытаньне зьяўляецца, як і зьяўлялася дагэтуль, войстра актуальным, патрабуе шырэйшага насьвятленьня й заняцьця да яго яснага становішча з нашага боку.

Хаця польскія палітычныя колы на эміграцыі стараюцца сяньня паддаць рэвізіі сваю палітыку зь перад 1939 г., як фальшывую й каротказоркую, у дачыненьні аднак да беларускай нацыянальна-вызвольнай праблемы думаюць яны, нажаль, старымі перадваеннымі катэгорыямі.

Асобна трэба коратка адцеміць пагляд на беларускую праблему польскіх эндэкаў. Найлепшай ілюстрацыяй гэтага пагляду могуць быць словы Т. Пішкоўскага, сказаных у ягоных артыкулах, зьмешчаных год таму назад у Лёнданскіх, часапісах «Львув і Вільно» (№ 37 з 24.8.47) і ў «Мыслі Польскей» (№ 11 зь 1947). У вартыкуле з гэтага апошняга часапісу між іншымі чытаем: «Трэба якраз, каб кажны дакладна сабе ўсьведаміў, што адзінымі праўдзівымі партнэрамі нашай усходняй граніцы зьяўляюцца толькі Польшча й Расея. Украінцы, летувісы й беларусы — гэта дзейнікі, якія могуць камплікаваць гэтую праблему, але якія ня маюць для гэтае праблемы вырашальнага значэньня. Усходняя польская граніца ёсьць граніцай польска-расейскай, але для яе значэньне толькі ўзаемнае дачыненьне сілаў, эвэнтуальна ўклад міжнародных дачыненьняў».

Гэтыя думкі, выказаныя год назад, сярод польскай эндэцыі не зьмяніліся й сяньня. Дык ясна, што з такімі аргумэнтамі дыскутаваць нельга, тым больш, што й палякі іншых палітычных кірункаў уважаюць іх за шкодныя навет для польскіх нацыянальна-гаспадарстваўскіх інтарэсаў.

Нас тут можа толькі цікавіць, як ставяцца да беларускага нацыянальна-вызвольнага пытаньня іншыя польскія колы, перадусім тыя, што зьяўляюцца ў польскім грамядзянстве найбольш папулярнымі й аўтарытэтнымі, голас якіх у будучай вольнай Польшчы будзе мець бясспрэчна вырашальнае значэньне. Ходзіць тут аб тых паляках, якія гуртуюцца вакол польскага эміграцыйнага ўраду ў Лёндане й якія зьяўляюцца прыхільнікамі й прапагатарамі фэдэральнай канцэпцыі сярэдня-ўсходняй Эўропы.

Вось-жа, трэба прызнаць, што бальшыня гэтых палякаў сяньня вызнае правы беларускага народу на ягоную гаспадарстваўскую незалежнасьць і ўважае, што й незалежная Беларусь, як раўнапраўны сябра, павінна ўвайсьці ў склад сярэдня-эўрапэйскай фэдэрацыі. Бяда толькі ў тым, што гэтая катэгорыя палякаў хацела-б бачыць незалежную Беларусь не бліжэй, як на ўсход ад рыскае мяжы. Гэтую думку праводзіць сяньня ўся польсакя эміграцыйная прэса, адказныя польскія палітыкі й навет афіцыйныя дзейнікі польскага эміграцыйнага ўраду.

Гэтак між іншым на адным з паседжаньняў польскага Лёнданскага кабінэту яшчэ ў мінулым годзе міністар замежных справаў Адам Тарнаўскі ў сваім рэфэраце заявіў: «У канцэпцыі сярэдня-эўрапэйскае фэдэрацыі трэба здабыць прыхільнасьць амэрыканскае палітыкі для нашага заданьня на ўсходзе й захадзе». Што гэта за заданьне, паясьняе далейшы сказ зь ягонае прамовы: «Не ўзнаючы Тэгеранскага й Ялтанскага дагавораў, урад Рэчыпаспалітай Польскай стаіць на становішчы важнасьці Рыскага трактату й дамагаецца звароту Польшчы ўсіх забраных ей тэрыторыяў» («Справы Польске», № 4, лістапад 1947). Гэты-ж міністар зусім нядаўна ў сваім лісьце да рэдактара аднае летувіскае газэты ў Нямеччыне безь ніякіх засьцярогаў уключае ў склад будучае Польшчы заходня-беларускія землі зь нічога добрага не прарочучай нам засцемкай, што інтарэсы жыхароў нашых земляў павінны гарманізавацца зь інтарэсамі жыхароў карэннай Польшчы («Кроніка», № 38, кастрычнік 1948).

Свае прэтэнсыі на заходня-беларускія землі апіраюць палякі на аргумэнтах гістарычных, праўных і на аргумэнтах неабходнасьці гэтых земляў для цэласьці й магутнасьці будучай Польшчы. Разгледзім тады коратка, па колькі гэтыя «аргумэнты» ёсьць абаснаваныя, г. зн. па колькі яны ўзапраўды зьяўляюцца аргумэнтамі: І так:

1. Што тычыцца гістарычных падставаў належаньня заходня-беларускіх ці наагул беларускіх земляў да Польшчы, дык гэтыя падставы зусім фікцыйныя. Беларусь да 1921 г. ніколі не належыла да Польшчы, як ейная складовая частка. Творачы ў мінуўшчыне сваё незалежнае гаспадарства — Вялікае Княства Літоўскае была яна на працягу стагодзьдзяў зьвязана з Польшчаю спачатку свабоднейшай, потым цясьнейшай фэдэральнай сувязьзю, але як Польшча, так і Вялікае Княства Літоўскае выступалі заўсёды, як два роўнапраўныя партнэры ў супольнай і дабравольнай вуніі, а не як адзін падлеглы другому. Такі стан трываў, як ведама, да 1795 г., г. зн. да трэйцяга разьдзелу Польшчы. А дзеля гэтага ніякіх гістарычных правоў Польшча на беларускія землі ня мае, а калі на іх паклікаецца, дык робіць гэта груба тэндэнцыйна. Той факт, што на Беларусі ў свой час дзеіла ў значнай ступені польская культурная экспансыя, дзякуючы якой вялікая часьць шляхты й магнацтва спалянізавалася, сяньня ня мае бадай ніякага вырашальнага значэньня, тым больш, што ў сілу выпадкаў гэты спалянізаваны элемэнт сяньня на Беларусі поўнасьцю адсутнічае.

2. Праўныя падставы сваіх прэтэнсыяў на заходня-беларускія землі выводзяць палякі з пастановы Рыскае ўмовы з бальшавікамі з 1921 г., на падставе якой гэтыя землі былі прылучаныя да Польшчы, а так-жа з цэлага раду далейшых пастановаў, вынікаючых з Рыскага трактату. Хаця Рыскі трактат і быў вызваны іншымі гаспадарствамі, аднак для беларускага народу зьяўляецца ён роўнавартасным з пактам Молатаў-Рыбэнтроп для Польшчы, бо абедзьве гэтыя пастановы груба пярэчылі элемэнтарным дэмакратычным прынцыпам і асновам міжнароднага права. Рыскі трактат, што рэзаў на часткі жывое цела Беларусі, якая паўнапраўным актам 25-га сакавіка 1918 г. абвесьціла сябе сувэрэнным гаспадарствам, быў заключаны супраць волі й без удзелу беларускага нероду.

3. Што Польшча патрабуе заходня-беларускіх земляў для нармальнага функцыянаваньня ейнага гаспадарстваўскага арганізму, дык у гэтым ня нашая віна. Для гілтераўскай Нямеччыны з гэтага гледзішча ня менш быў патрэбны «лебэнсраўм» на ўсходзе, у тым ліку й на тэрыторыі Польшчы, аднак гэты аргумэнт, як супярэчны зь міжнародным правам і інтарэсамі жыхарства, што засялялі гэтыя тэрыторыі, прывёў да другой сусьветнай вайны.

На наш пагляд, імкненьні палякаў да прылучэньня да свайго гаспадарства заходня-беларускіх земляў апіраюцца ў першую чаргу на матывах псыхалягічных, а ня столькі на рэальных патрэбах, што маюць быццам гарантаваць існаваньне будучае Польшчы. Не падлягае сумлеву факт, што калі-б, прыкладам, Польшча пры перавазе фізычнае сілы гэтыя землі захапіла, дык ня толькі не павялічылі-б яны сілы польскага гаспадарства, але сталіся-б прычынаю ейнае слабасьці, як гэта было перад 1939 г. Беларускі народ, які сяньня ўжо дасягнуў дастатковую ступень нацыянальнай сьведамасьці, ніколі не пагодзіцца з такім вырашэньнем ягонага лёсу й будзе тады ў польскім гаспадарстве толькі дэструкцыйным дзейнікам. Плян спалянізаваньня беларусаў у Заходняй Беларусі, які праводзіўся вельмі інтэнсыўна пры безаглядным застасаваньні ўсіх сродкаў, пачынаючы ад паліцыі, а канчаючы на касьцёле, ня даў ніякіх пажаданых для Польшчы вынікаў. Бо калі перастаў дзеіць польскі адміністрацыйны й паліцыйны апарат у 1939 г., дык ад усей дваццацілетняй палянізацыйнай акцыі не асталося амаль і сьледу. Усе тыя, што паходзяць з Заходняй Беларусі, вельмі добра ведаюць гэта.

Польскія эміграцыйныя палітыкі, што сяньня дамагаюцца павароту да Польшчы заходня-беларускіх і заходня-украінскіх земляў па граніцы 1939 г. і адначасна прапагуюць фэдэральныя ідэі народаў сярэдня-ўсходняй Эўропы, вызначаючы за імі роўныя правы на вольнасьць і гаспадарстваўскую незалежнасьць, стараюцца дзьве гэтыя супроцьлеглыя канцэпцыі пагадзіць у вельмі арыгінальны і аднаасна просты спосаб. Яны задэкляроўваюць, што нацыянальныя інтарэсы беларусаў і ўкраінцаў, што знойдуцца ў межах польскага гаспадарства, будуць шырака ўзятыя пад увагу і разьвязаныя ў духу нацыянальных, культурных і гаспадарскіх патрэбаў гэтых народаў.

Ці-ж хоць які-небудзь народ, што мае ўсе ўмовы, правы і жаданьне жыць собскім незалежным жыцьцём, мог-бы пагадзіцца з такім вырашэньнем свайго лёсу? Ясна што не. Апрача гэтага падобныя задэкляроўваньні ня могуць прадстаўляць сяньня для беларускага народу ніякай вартасьці. Бо і пасьля першае сусьветнае вайны польскія легіёны Пілсудзкага ўступалі на Беларусь із прыгожымі лёзунгамі: «Рувні з рувньымі, вольні з вольнымі», «За нашон вольносьць і вашон» і г. пад. Ведаем, у што потым гэтыя лёзунгі абярнуліся, калі на тэрыторыі Заходняе Беларусі разганялася пры помачы паліцыі апошняя беларуская школа ці закрывалася апошняя беларуская газэта згодна з ранейшым плянам польскага міністра Сікорскага, які з соймавай трыбуны заяўляў, што за 50 год ня будзе на тэрыторыі Польшчы аніводнага беларуса. Маючы такое горкае дасьветчаньне нядаўняга мінулага, мы сяньня ня маем магчымасьці паверыць ніводнай польскай дэкларацыі, пакуль яна ня будзе абапёртая на канкрэтным чыне й факце.

Мы здаём сабе дакладна справу зь неабходнае патрэбнасьці ўпарадкаваньня беларуска-польскіх узаемадачыненьняў, што ляжыць ня толькі ў нашых інтарэсах, але ў роўнай меры й ў інтарэсах польскага народу. Бясспрэчным ёсьць факт, што разьвязаньне ў будучыні пытаньня гаспадарстваўскай незалежнасьці й улажэньня мэтазгодных міжгаспадарстваўскіх дачыненьняў народаў сярэдня-ўсходняй Эўропы будзе ў вялікай меры залежыць ад таго, як уложацца беларуска-польскія ўзаемадачыненьні.

Мы не замыкаем вачэй на ўсе цяжкасьці гэтае праблемы, разумеем аднак, што яны для дабра двух суседніх народаў, якія маюць і будуць мець многа супольных інтарэсаў, мусяць быць пераможаныя. Нашае становішча ў гэтай справе зьяўляецца ясным. Мы імкнёмся да вольнай і незалежнай Беларусі на нашых этнаграфічных землях, бо гэта ёсьць нашым агульнанаордным імкненьнем і нашым незапярэчным правам. згодным з усімі дэмакратычнымі прынцыпамі й зь міжнароднымі пастановамі аб пашанаваньні волі чалавека й народаў. Хочам таксама, каб і палякі ясна выявілі сваё становішча ў гэтай спарве ў духу тых-жа самых прынцыпаў і ідэяў.

**Я. Каранеўскі.**

---

вы зьўляюцца таксама прычынаю поўнае бязьдзейнасьці, безадказнасьці й абыякавасьці ў дачыненьні да сваіх грамадзкіх абавязкаў пэўнае часткі нашага грамадзянства якраз тады, калі жыцьцё ставіць перад намі вялізарныя вымаганьні.

Такіх прыкладаў, ілюструючых ідэалягічную слабасьць сярод часткі нашага грамадзянства, ёсьць многа. Але й прыведзеных тут хопіць, каб сьцвердзіць, што ня ўсё ў нас у парадку і што нашыя кіруючыя грамадзкія й палітычныя дзейнікі, а таксама нацыянальны актыў маюць перад сабою вялізарныя заданьні на нашым нутраным фронце. Гэта паказвае, што існуе вялізарная патрэба сыстэматычнай нацыянальна-ўзгадаваўчай працы сярод нашай эміграцыі з тым, каб людзям усьведамляць нашае нацыянальнае палажэньне, нашыя нацыянальныя патрэбы й нашыя элемэнтарныя абавязкі перад Бацькаўшчынай і народам.

Ідэалягічнае ўзгадаваньне грамадзянства немагчымае без пазнаньня мінуўшчыні свайго народу, працэсу ягонага змаганьня за свае ідэалы й ягоных культурных цэннасьцяў. Усё гэта зьяўляецца найбольш магутнымі крыніцамі нацыянальнае сілы.

Само сабой зразумела, што гэта нялёгкія заданьні ў умовах эміграцыйнага жыцьця й нашае расьцярушанасьці па цэлым сьвеце. Але пэўную частку гэтай так важнай працы можна выканаць і ў тых умовах, у якіх мы сяньня знаходзімся. Тут у першую чаргу можа адыграць вялікую ролю нашая прэса й выдавецтва наагул, розныя нашыя арганізацыі і ўстановы, а таксама й індывідуальная праца найбольш пакліканых да гэтага адзінак. Трэба толькі, каб спасярод многіх галінаў нашае працы на эміграцыі была зьвернутая належная ўвага й на гэтую ня менш важную для нас галіну із сьведамасьцю, што справа ідэалягічнае моцы нашага грамадзянства й ягонае нацыянальнае актыўнасьці й ідэйнае непахіснасьці ёсьць найважнейшай перадумовай нашае перамогі. Ня колькасьць грамадзянства пастанаўляе аб выніках ягонае дзейнасьці, але якасьць. Ходзіць тады пра тое, каб нашыя грамадзкія кадры, належна ўзброіўшыся ідэалягічна, сталіся паўнавартаснымі з нацыянальнага гледзішча й змаглі як найлепей і як найшырэй **выканаць узложаныя на іх нацыянальныя абавязкі.**

# АБ АДМІНІСТРАЦЫІ ЛЯГЕРАЎ ДП

Дня 15 чырвеня 1948 г. Галоўная Гаспода ІРО ў Жэнэве выдала распараджэньне за № 74 аб самаўрадзе лягераў і іхных адносінах да нацыянальных групаў ДП. На падставе гэтага распараджэньня Галоўная Гаспода ІРО на Амэрыканскую зону Нямеччыны абвесьціла адміністрацыйны загад з дня 12.8.48 аб адміністрацыі лягераў. Мэтай гэтага загаду зьяўляецца ў васноўным увядзеньне аднастайнасьці ў розных дагэтуль існуючых лягерах сыстэмы адміністраваньня. У пяршыню гэтым загадам дапушчаюцца цэнтральныя нацыянальныя арганізацыі ДП да навязаньня афіцыйнай сувязі з ІРО і прадстаўляньня да разгляду ІРО сваіх прапановаў. Згодна гэтага загаду выбары ў лягерах ДП адбываюцца ў аснаўным раз на год. Аднак кіраўнікі мясцовых гасподаў ІРО маюць права ўстанаўляць іншыя тэрміны для выбараў лягернага камітэту. Пасьля выбараў лягернага камітэту апошні выбірае адміністратара лягеру, які пачынае ўрадаваць па атрыманьні пісьмовае згоды і намінацыі ад кіраўніка мясцовага аддзелу ІРО. (супэрвізара). У выпадку патрэбы супэрвізар мае права да часу выбараў вызначыць сам лягернага адміністратара. Адміністратар лягеру зьяўляецца найвышэйшым рангай сябрам лягернай адміністрацыі.

Лягерная адміністрацыя складаецца з адміністратара, з аднаго або найбольш двух ягоных заступнікаў і цэлага шэрагу рэфэрэнтаў і дзеіць у лягеры, як выканаўчы орган ІРО. Пасьля ўканстытуаваньня лягерны камітэт выбірае кантрольную камісію, вялічыня якой вызначаецца мясцовым супэрвізарам. Загад дакладна вылічае абавязкі адміністратара лягеру, лягернага камітэту й кантрольнае камісіі. Адміністратар лягеру пільнуе, каб усе іраўскія й вайсковыя загады й распараджэньні, а таксама пастановы лягернага камітэту былі выконваныя. Ён прадстаўляе на зацьверджаньне супэрвізара запрапанаваных лягерным камітэтам кандыдатаў на заступніка адміністратара і рэфэрэнтаў. Ён прыймае ўдзел у выбары шэфа лягернай паліцыі. У выпадку, калі пэўнае распараджэньне ІРО выклікае ў лягеры аснаўныя зьмены, якія згодна думкі лягернага камітэту спрычыняць шкоду для ўсіх жыхароў лягеру, або пэўнай нацыянальнай групе, адміністратар лягеру выконвае гэтае распараджэньне толькі пасьля таго, як атрымае пацьверджаньне гэтага распараджэньня ад вышэйшых уладаў ІРО. У такіх выпадках адміністратар адразу пасьля паведамленьня яго лягерным камітэтам забявязаны прадставіць пагляды апошняга Акруговай Гасподзе ІРО цераз мясцовага супэрвізара.

Лягерны Камітэт зьяўляецца органам, які выносіць пастановы ў справе нутраного жыцьця лягеру. Гэтыя пастановы забявязаны ён перасылаць за пасярэдніцтвам адміністратара на зацьверджаньне ІРО. Ён выбірае спасярод сябе старшыню, ягонага заступніка і сакратара. Ён прадстаўляе ў мясцовы аддзел ІРО кандыдыдатаў на заступніка адміністратара і рэфэрэнтаў. Выбірае кантрольную камісію, а таксама й камісію для дысцыплінарнага паступаньня. Прычым апошнюю ў паразумленьні з праўным афіцэрам акругі ІРО (Арэя Лігэль Офіцэр). Дзеля выконваньня спэцыяльных нутраных заданьняў лягерны камітэт паклікае камісіі й запрашае знаўцаў, ад якіх жадае справаздачы. У выпадку патрэбы лягерны камітэт выступае перад ІРО з прапановаю зьмены адміністратара лягеру. Каб такая прапанова магла быць пададзеная ў ІРО, яна павінна быць прынятая абсалютнай бальшынёй галасоў лягернага камітэту. Сакратар лягернага камітэту вядзе пратаколы паседжаньняў і прадстаўляе на подпіс старшыні лягернага камітэту. Копіі пратаколаў маюць быць даручаныя для азнаямленьня адміністратара лягеру. Лягерны камітэт, апрача асаблівых выпадкаў, паразумляваецца з дырэктарам акругі ІРО (Арэа) толькі праз супэрвізара ІРО.

Кантрольная камісія выбіраецца лягерным камітэтам і складаецца із старшыні, ягонага заступніка й сакратара. Яна мае прав паклікаць у выпадку патрэбы да помачы знаўцаў. Із сваей працы яна складае справаздачу адміністратару й камітэту лягеру. Кантрольная камісія можа браць удзел у паседжаньнях лягернага камітэту з дарадчым голасам. Сябры кантрольнае камісіі павінны падходзіць аб'ектыўна да ўсіх справаў, зьвязаных з даручанымі ім абавязкамі.

**Юрысконсуль.**

---

### ПАСЬЛЯ ВЫБАРАЎ У ФРАНЦЫІ

Пасьля выбараў у Раду Рэспублікі ў Францыі лічацца ў Парыжы з магчымасьцю, што хрысьціянска-сацыяльная партыя (МРП) ў сувязі зь яе няўдачамі ў выбарах выйдзе із цяперашняга кабінэту, у якім яна мае 8 месяцаў. Камуністыя паведамілі аб сваей згодзе супрацоўнічаць у ўрадзе з сацыялістымі і каталікамі. Колькасьць здабытых Дэ Голям мандатаў у Радзе Рэспублікі яшчэ канчальна няведамая. Падчас таго, калі міністэрства нутраных справаў паведаміла аб 57 здабытых ім мандатах, Дэ Голь заявіў, што колькасьць ягоных староньнікаў ў Радзе Рэспублікі выносіць 125 дэлегатаў.

Згодна паглядаў палітычных колаў Францыі суадносіны сілаў выявяцца толькі падчас выбараў прэзыдэнта Рады Рэспублікі. На гэтае становішча мае кандыдаваць П'ер Дэ Голь — брат генэрала.

### МЕРАПРЫЭМСТВА ФРАНЦУЗКАГА ЎРАДУ

Пасьля шматгадзіннага паседжаньня французкага ўраду міністар нутраных справаў Мош падаў да ведама, што даны загад для 100.000 арміі быць напагатове да абсады капальняў. Мош зажадаў ад вуглякопаў да 12 лістапада прыступіць да працы пад умовай, што ў праціўным выпадку яны не атрымаюць сямейнага дадатку за месяц лістапад.

### АНГЕЛЬСКАЯ ЦАРКВА ЗА ЎЖЫЦЬЦЁ АТАМНАЙ БОМБЫ

Канфэрэнцыя «Ангельскай царквы» адобрыла ўжыцьцё атамнай бомбы ў абаорннай вайне супраць напасьніка. Толькі трох спасярод 400 дэлегатаў галасавала супраць гэтае пастановы, дамагаючыся міжнароднае кантролі атамнае бомбы і абвінавачваючы Савецкі Саюз, што дзякуючы яму гэтая кантроля дагэтуль не дасягнутая. Архіяпіскап Ёрку Гэрбэт заявіў пры гэтым, што ў новай вайне атамная бомба праўдападобна будзе ўжытая. Але трэба старацца, каб яна была ўжываная толькі супраць чыста ваенных мэтаў.

---

**Ці выканалі Вы Ваш грамадзкі абавязак і аднавілі падпіску на «Бацькаўшчыну»? Зрабіце гэта безадкладна!**

# ТРЫ ГАДЫ

## ПРАЦЫ НАШАЙ МОЛАДЗІ

Нашая моладзь, апынуўшыся паза межамі сваёй дарагой Бацькаўшчыны, знайшлася ў даволі дагодных умовах,, даных ёй заходнімі дэмакрацыямі, што яна поўнасьцю скарыстала з магчымасьці разьвіваньня і фармаваньня тых ідэяў, якіх яна дома, дзякуючы бязупынным акупацыям, не змагла ажыцьцявіць. Таму 15-е лістапада і зьяўляецца так важнай датай у яе жыцьці, бо сяньня. якраз ужо 3 гады, як заснаваліся першыя скаўцкія адзінкі ў Нямеччыне, а тым самым і нарадзілася Згуртаваньне Беларускіх Скаўтаў на Чужыне.

Прыпамінаецца яшчэ, што калі пасьля заканьчэньня ваенных дзеяньняў, пачаў сьвет думаць аб будаваньні трывалага міру, нашае нацыянальнае пытаньне выглядала тады даволі трагічна. Суродзічы нашыя, разагнаныя вайной па ўсіх кутках Нямеччыны, ды іншых эўрапэйскіх краінах, апынуліся найчасьцей у чужых, а нярэдка і ў нам варожых асяродках, дзе ў сувязі з тагачасным палітычным палажэньнем, не маглі даваць знаку свайго існаваньня.

І вось, хаця і ў пэрыяд для нас асабліва цяжкі, побач з іншымі беларускімі арганізацыямі, паўстае ЗБСЧ, каб згуртаваць поўнасьцю расьцярушаную моладзь і выхаваць яе ў вялікіх нацыянальных і скаўцкіх ідэалах.

Праўда, скаўцкі рух сярод беларускае моладзі нарадзіўся тут ня ў пяршыню, тут ён стаўся толькі прадаўжальнікам тых запаветаў, якія нам пакінулі існуючыя ў 1922 — 23 г.г. скаўцкія зьвязы нясвіскае, наваградзкае і віленскае гімназіяў. У той-жа пэрыяд існавалі таксама нашыя скаўцкія адзінкі і паза межамі, як у Лацьвіі і Аргентыне, але да гэтага часу беларускі скаўцкі рух нідзе не прыняў самастойных і скрышталізаваных формаў, ня меў свайго нацыянальнага кіраўніцтва і ня меў так выразных імкненьняў, носячых у сабе дзяржаўны характар. Таму ён, дзякуючы розным нам непажаданым «апякуном», ня змог выліцца ў форме нацыянальнае арганізацыі і таму ня было дазволена выступіць на міжнароднай арэне, як самастойнай адзінцы.

Важкім дзейнікам у спрыяльным і буйным разьвіцьці гэтага руху на чужыне бяссумліву былі арганізацыі беларускае моладзі, якія, існуючы дома ўжо да і пад час II-е сусьветнае вайны, ускалыхнулі моладзь і пабудзілі яе да арганізацыйнага жыцьця.

Таксама неабходна зазначыць, што выдатную ролю адыграла тут падтрымка і поўнае зразуменьне для справы цераз заходніх альянтаў, і можа найважнейшым фактарам у разьвіцьці і росьце нашае арганізацыі была глыбокая ідэйнасьць, ахвярнасьць і сьведамасьць пастаўленых заданьняў нашага кіраўніцтва.

### ЯК ПАЎСТАЛА ЗБСЧ

Яшчэ сяньня многія з нашых суродзічаў ня здаюць сабе справы ані з істоты скаўтынгу як такога, ані з асабліва цяжкіх умоваў і розных іншых перашкодаў, сярод якіх наш рух павінен быў змагацца за сваё існаваньне.

У 1945 г. у Нямеччыне былі толькі лічаныя скаўцкія адзінкі, да гэтага яшчэ парасяданыя па розных кутках усіх заходніх зонаў Нямеччыны. У іншых асяродках, дзе мелася беларуская моладзь, ня было найчасьцей падрыхтаваных скаўцкіх кіраўнікоў. Пачынаючы працу арганізаваньня скаўцкіх адзінак ня было ня толькі дасьветчаных рук, але і ня было ані сваіх, ужо гатовых, статутаў, рэгулямінаў ды іншых патрэбных для шкаленьня рэчаў, ані сваей скаўцкай літаратуры, — адным словам нічога, апрача ахвоты моладзі і некаторых старэйшых.

Пры гэтым грамадзкасьць пераважна не разумела ні прынцыпаў новае арганізацыі, ні яе ідэалёгіі, ні складанага мэтаду скаўцкага выхаваньня, манучы нахіл разгляданьня гэтай арганізацыі як такой, зь якімі яна мела ўжо нагоду спаткацца пад тым ці іншым акупантам. Трэба было пачынаць ад самых першых асноваў, шукаць самастойнае разьвязкі згодна з нашымі нацыянальнымі традыцыямі і псыхікай нашага народу ў дапасаваньні да агульна прынятай цэлым сьветам ідэі скаўтынгу, каб змагчы стварыць свой собскі нацыянальны рух моладзі, які ахапіў-бы маладое пакаленьне ня толькі тут на чужыне, але і мог-бы быць перанесеным у вадпаведную хвіліну на вызваленую Бацькаўшчыну і які быў-бы ўсімі заходнімі народамі прызнаным як сапраўдны рух скаўцкі.

Галоўнаму кіраўніцтву ЗБЧС удалося перамагчы ўсе гэтыя перашкоды. Яно выпрацавала самастойныя арганізацыйныя формы, статуты, рэгуляміны, праграму працы, неабходныя інструкцыі, выдала таксама неабходную скаўцкую літаратуру, ды найважнейшае можа, дабілася прызнаньня Інтэрнацыянальным Скаўцкім Бюром у Лёндане нашае арганізацыі.

Зразумела, гэта ўсё вымагае надзвычай многа энэргіі і актыўнае працы, ахвярнасьці і адданасьці справе руху моладзі. Зьезды ЗБЧС, якія адбыліся ў 1946 і 1947 г.г., замацавалі падрыхтаваныя арганізацыйныя формы і накрэсьлілі далейшыя вытычныя на будучыню. Галоўным заданьнем нашае арганізацыі было і будзе тварыць поўнавартаснага чалавека і добрага грамадзяніна свае Бацькаўшчыны.

### ДАСЯГНЕНЬНІ

Карыстаючыся з нагоды 3-іх угодкаў, дазволім успомніць тут найважнейшыя і істотныя мамэнты у нашым скаўцкім руху.

На сяньняшні дзень ЗБЧС налічвае роўна 512 сяброў і сяброваk, зарганізаваных у 5 штандарах амэрыканскае, ангельскае і францускае зонаў. Нажаль, паданы лік не ахопліваае яшчэ поўнасьцю ўсяе нашае моладзі. Да гэтага спрычыняюцца многа якія фактары арганізацыйнага характару, ды і ў няменшай меры сучасны стан нашае эміграцыі. Аднак мудрая пагаворка падкрэсьлівае, што сіла ляжыць якраз ня ў колькасьці, а ў якасьці. І вось у гэтым напрамку і вядзецца інтэнсыўная праца, рэзультаты якой ужо можам наглядаць у тым, што ЗБЧС змагло падрыхтаваць сваіх кіраўнікоў і інструктароў, і тым самым узвысіць магчымасьці лепшага выхаваньня моладзі.

Кіраўніцтва не забылася таксама і таго, што нам усім аднолькава вельмі ляжыць на сэрцы, а пайменна, пашырацьць пры розных нагодах нашае добрае беларускае імя. Сьведама гэтага, нашая арганізацыя не памінула ніводнае большае магчымасьці, каб ня выступіць пад сваімі нацыянальнымі і скаўцкімі сьцягамі побач зь іншымі на розных міжнародных імпрэзах. Заняло-б тут шмат месца пералічваючы ўсе тыя выступы, на якіх нашыя скаўты прыймалі ўдзел. Задаволімся толькі тым адным з важнейшых для нас мамэнтаў, калі мы прыймалі ўдзел у вялікім міжнародным зьезьдзе ў Гамбургу (25 — 31 сакавіка 1948 г.), дзе прысутнічаў шэф скаўтаў брытанскае імпэрыі, гензрал-лейтэнант лёрд Раўэлэн, які ў той час зьвярнуў асаблівую ўвагу на нашую арганізацыю. Знаючы, якім важным фактарам у выхаваньні моладзі і знаёмленьні шырэйшых масаў для выкліканьня сярод іх зразуменьня і падтрымкі ёсьць друкаванае слова, ЗБЧС рабіла і тут усе тыя намаганьні, якія толькі ляжалі ў граніцах яе магчымасьцяў.

Хаця й на ратаtары, выдана шмат скаўцкае і нацыянальнае літаратуры, скаўцкіх часапісаў ды іншых рэчаў.

У Англіі прадаўжае выходзіць месячнік для моладзі «Наперад», а Галоўная Кватэра і далей выдае свой бюлетэнь «Інфармацыйная Служба».

### АГУЛЬНЫЯ ЛІНІІ НА БУДУЧЫНЮ

Заданьні на будучыню — вялізарныя. Перш за ўсё гэта змацаваць нашыя рады знутры, дакладней спрэцызаваць структуру і рэгуляміны для больш эфэктыўнае дзейнасьці, як тут на чужыне, так і, ужо ў недалёкім часе, у вызваленай Бацькаўшчыне.

Каб быць на вышыні стаўляных вымогаў, трэба неабходна і далей школіць новыя кадры, ды дашкольваць існуючыя, выпрацаваць і выдаць скаўцкія дапаможнікі ды іншыя, можна назваць, фаховыя падручнікі для кіраўнікоў, зьвярнуць асаблівую ўвагу на прапагаваньне нашае справы на міжнародным грунце, ды ня менш важнае, выхоўваць моладзь нацыянальна.

І ў далейшым моладзь і яе кіраўнікі павінны тварыць адну і непадзельную цэласьць і непахісна стаяць на чыста скаўцкім шляху.

Новы зьезд ЗБЧС, які мае адбыцца ў пачатках студзеня 1949 году, будзе далейшым этапам на нашым скаўцкім грунце у напрамку разьвіцьця і ўмацаваньня нашае арганізацыі паводля накінутых вышэй тэзаў.

Арпа.

### СЬВЯТОЙ † ПАМЯЦІ

**Беларускі паэта Хведар Ільяшэвіч 7 лістапада сёлета перадчасна загінуў на далёкай чужыне, аб чым із глыбокім сумам падаём да публічнага ведама.**

**Чэсьць Ягонай памяці!**

(Дзеля нястачы дакладных дадзеных аб Ягонай сьмерці абмяжоўваемся пакуль што толькі гэнай кароткай зацемкай).

Рэдакцыя

### СЬВЯТОЙ † ПАМЯЦІ

**Барон Эўген фон Энгельгардт, аўтар ведамай працы аб Беларусі ў нямецкай мове («Вайсрутэніен»), перакладаў зь беларускіх паэтаў, вялікі сымпатык і прыяцель нашага народу, —**

**7 лістапада сёлета адыйшоў на вечны супакой.**

**Чэсьць Ягонай памяці!**

Рэдакцыя

### СПАТКАНЬНЕ ТРУМАН — СТАЛІН?

Савецкая прэса падала 10 лістапада да ведама за агенцтвам Тас аб магчымасьці спатканьня прэзыдэнта Трумана із Сталінам. Таксама і Маскоўскае радыё ў гэты-ж дзень паведаміла аб магчымасьцях такога спатканьня.

У афіцыяльных Вашынгтонскіх колах у сувязі з гэтым было паведамлена, што «Труман ня мае такога пляну».

### СПРАВА ПАЛЕСТЫНЫ НА РАДЗЕ БЯСЬПЕЧНАСЬЦІ

Рада Бясьпечнасьці 10 лістапада разглядала ізноў справу Палестыны. Савецкі дэлегат Малік запатрабаваў, каб жыды й арабы распачалі непасрэдныя перамовы з мэтаю дасягненьня поўнага міру.

### АРГЕНТЫНА СУПРАЦЬ КАМУНІСТЫХ

Адзін аргентынскі суд прызнаў камуністычную партыю Аргентыны, за нелегальну, абвінавачваючы камуністых што «яны кіруюцца варожымі для гаспадарства пастановамі, што выносяцца за межамі Аргентыны». Іншы аргентынскі суд скрэсьліў із сьпіску камуністычнага кандыдата, што меў кандыдаваць на выбарах 5 сьнежаня.

**Абавязкам кажнага зарабляючага Беларуса, апрача падпіснай платы, злажыць ахвяру ў меру ягоных магчымасьцяў на выдавецкі фонд «Бацькаўшчыны».**

### ЗЬМЕНА АДРАСОЎ НАШЫХ ЗАМЕЖНЫХ ПРАДСТАЎНІЦТВАЎ

Апошнім часам адрасы прадстаўніцтваў нашае Рэдакцыі ў Вялікабрытаніі й Канадзе зьмяніліся на наступныя:

**У Вялікабрытаніі:**

Association of Whiteruthenians in Gr. Britain.
52, Penn Roaede, Holloway, London N. 7. England

**У Канадзе:**

Mr. Pituska Joseph,
65, Boldwin St. Toronto, Ont Canada.

Уладыслаў Рыжы-Рыскі зьвяртаецца ветліва да беларускіх установаў, сяброў і знаёмых з просьбаю кіраваць усю для яго карэспандэнцыю на адрас:

2. Via Carlo Cataneo, Roma, Italia.

---

А. Дзіда.

# СУЧАСНЫЯ ПРАБЛЕМЫ

## БЕЛАРУСКАЕ ВОНКАВАЕ ПАЛІТЫКІ

(Заканчэньне).

Тэза разьдзелу Расейскае імпэрыі на ейныя складовыя нацыянальныя часткі поўнасьцю адказвае й прынцыпам міжнароднае справядлівасьці, бо аднаўленьне незалежных дзяржаваў, раней ці пазьней перамоканых ды акупаваных збройнаю сілаю, адпавядае нормам забавязваючага сяньня права ў міжнародных дачыненьнях, тым балей, што мова йдзе аб вызваленьні народаў, якія ў выніку ваеннага падбою апынуліся пад нябывалым у гісторыі чалавецтва нацыянальна-культурным, гаспадарскім і сацыяльным прыгнётам, што супярэчыць найэлемэнтарнейшым вымогам гуманнасьці. Зноў-жа такі акт разьдзелу быў-бы з гледзішча міжнародных інтарэсаў і актам мэтазгоднасьці, бо сяньня ўжо цэлы сьвет пераконваецца ў тым, што карані расейскага імпэрыялізму ляжаць глыбака ў ейнай гісторыі, што Расея навонкі праз усю сваю гісторыю выступала як дзяржава імпэрыялістычная. Таму гэты сьвет і прыходзіць да выснаву, што ня можа быць у ім міру й парадку, пакуль любая расейская імпэрыя будзе надалей існаваць. А нашае гістарычнае дазнаньне змушае нас трымацца пагляду, што Расея нат абмежаная да сваіх этнаграфічных межаў шчэ надоўта застанецца жыць ідэямі рэстаўрацыі свае імпэрыі. Таму наш блёк ня можа ўключыць у свой склад і такое Расеі, бо ён-жа і праектуецца якраз, як абаронны блёк нашых нацыянальных дзяржаваў супроць мілітарнае, палітычнае й гаспадарскае сілы Расеі й Нямеччыны ды супроць расейскага й нямецкага імпэрыялізму. Мы змушаныя будзем і надалей стаяць на варце непарушнае ўмовы, паводля якое толькі этнаграфічная Расея без падбою чужых земляў можа не заграж̇аць нашай свабодзе.

Але тут-жа із асаблівым націскам мы хочам заявіць, што, не зважаючы на ўсе нашыя засьцярогі да Расеі, мы аднак не зьбіраемся прапагаваць нянавісьці да расейскага народу, які, як і ўсе іншыя народы сьвету, мае права на свабоду й незалежнасьць. Мы рашуча выступаем ня супраць яго, а супраць ягонага імпэрыялізму, які скоўвае нас ланцугамі няволі.

Такая праграма нэгатыўнага пляну нашае канцэпцыі.

Цяпер перайдзем да ейнага другога пляну — пляну пазытыўнага. Трэба спадзявацца, што ўжо ў бліжэйшым часе па вызваленьні нашых земляў ад расейскай няволі й аднаўленьні на іх нашых нацыянальных сувэрэнных дзяржаваў нямецкі імпэрыялізм пачне непакоіць дзяржавы цэнтральнае й паўдзённае Эўропы. Апошнія ў вабароне сваіх нацыянальна-дзяржаўных інтарэсаў могуць разьлічваць на салідарнасьць дзяржаваў усходняе Эўропы; гэтак-жа, як і дзяржавы ўсходняе Эўропы ў вабароне сваіх нацыянальна-дзяржаўных інтарэсаў перад расейскім імпэрыялізмам могуць разьлічваць на салідарнасьць дзяржаваў цэнтральнае й паўдзённае Эўропы. Такім чынам, супольнымі сіламі ўсіх дзяржаваў цэнтральнае, паўдзённае й усходняе Эўропы загроза нямецкага й расейскага імпэрыялізму магла-б быць параліжаванай; у той час калі адны дзяржавы цэнтральнае й паўдзённае Эўропы, нат падтрыманыя сіламі Заходня-Эўрапэйскае вуніі й Скандынаўскага блёку, але не падтрыманыя сіламі дзяржаваў усходняе Эўропы, ня змогуць процістаяць нямецкай агрэсіі; гэтак-жа, як адны вольныя дзяржавы ўсходняе Эўропы, не падтрыманыя сіламі дзяржаваў цэнтральнае й паўдзённае Эўропы, ня змогуць процістаяць агрэсіі расейскай. У гэтай першай канечнай для ўсіх дзяржаваў праектаванага блёку супольнасьці й выяўляецца ўжо пазытыўная функцыя нашае канцэпцыі.

Але блёк дзяржаваў цэнтральнае, паўдзённае й усходняе Эўропы меў-бы паўстаць ня толькі дзеля таго, каб супольнымі сіламі зблёкаваных народаў хутчэй вызваліць нашыя землі ад расейскае няволі, аднавіць на іх свае сувэрэнныя нацыянальныя дзяржавы ды бараніцца ад далейшых спробаў нямецкага і расейскага імпэрыялізму. Ён павінен паўстаць і для будучых канструктыўных мэтаў. Тут на першае месца высунецца пытаньне цеснага гаспадарскага супрацоўніцтва дзяржаваў блёку. Праўда, кажная із дзяржаваў праектаванага блёку, а ў тым і Беларусь, пад паглядам эканамічна-гаспадарскім магла-б даць рады сабе й сама, але ў наш час, калі эканамічная палітыка сьвету пераходзіць на плян гаспадарскіх блёкаў, ніводная нат із самых багатых дзяржаваў ня можа ізалявацца ў сваёй еканамічнай палітыцы, калі яна ня хоча падпасьці пад моцны эканамічны ціск гаспадарскіх блёкаў іншых дзяржаваў.

Вось-жа, побач такіх гаспадарскіх блёкаў, Заходня-Эўрапэйская вунія й Скандынаўскі ці Скандынава-Балтыцкі блёк, дзяржавы цэнтральнае, паўдзеннае й усходняе Эўропы ў імя сваіх рэгіянальна-супольных гаспадарскіх інтарэсаў цесна павязалі-б і сваю эканамічную палітыку. Розны-ж стан гаспадарскага разьвіцьця дзяржаваў заходняе Эўропы й дзяржаваў нашага блёку прамаўляе за тое, каб прынамся на бліжэйшы час эканамічнае супрацоўніцтва нашага кантынэнту рэгулявалася праз такія гаспадарскія блёкі.

Так выглядае ў вагульных зарысах новая канцэпцыя нашае вонкавае палітыкі. Нам выдаецца, што яна пляную моцную міждзяржаўна-рэгіяльную канструкцыю, якая магла-б мець дастаткова сілаў, каб эканамічна, палітычна й мілітарна процістаяць расейскаму й нямецкаму імпэрыялізму, гарантаваць нам свабоду й незалежнасьць ды магчы збалянсаваць устанаўленьне міжнароднага міру й парадку. Пры гэтым мы не зачыняем вачэй на ўсялякія цяжкасьці й перашкоды, якія могуць паўстаць на шляху тварэньня блёкаў дзяржаваў цэнтральнае, паўдзённае й усходняе Эўропы, асабліва пры ўстанаўленьні межаў паміж нашымі дзяржавамі; не выключаем таксама магчымасьці, што й канструктыўная праца блёку можа спаткацца ў будучыні із праявамі імпэрыялістычных тэндэнцыяў з боку некаторых народаў унутры блёку. Цяжкасьцяў і перашкодаў будзе заўсёды шмат і то пры любым пляне, пры любой канцэпцыі. Але якраз у блёку на аснове ўзятых на сябе забавязаньняў супольнымі высілкамі ўсе гэтыя цяжкасьці й перашкоды значна лягчэй будзе паканаць, чымсьці гэта магла-б рабіць кажная асобная дзяржава толькі сваімі ўласнымі сіламі.

